# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

1932

МЭТАЛЮРГІЧНЫМ ЗАВОДАМ ВЫСОКУЮ ТЭХНІКУ

№ 3

ВЫГРУЗКА РУДЫ З КОЎШАПАРАВОЙ РУДАЧАРПАЛЬНАЙ МАШЫНЫ Ў БУНКЕР

Нумар здан у набор 4-III—32 г.
Падпісан да друку 23-III—32 г.
Адказны рэдактар Міхась Чарот.
Адказны сакратар Я. Шаракоўскі.
Нумар набран і зьвёрстан брыгадай імя 13-га Кастрычніка, на макету А. Тычыны.
Корэктар У. Міхалевіч.
Клішэ выкананы ў цынкаграфіі ДВБ.

# Чырвоная Беларусь

ЛЮТЫ 1932 г.

Адрас рэдакцыі, Савецкая, 59
Тэл. № 17—69.

№ 3


Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

## КУЛЬТУРНАМУ ФРОНТУ ДАМО

БАЛАХНА адзін з 500 дынамо-мотораў устаноўленых на бум. комбінаце.
УСТАНОЎКА ВАЛУ МАШЫНЫ





## ТЫСЯЧЫ ТОН ПАПЕРЫ

Зьмест



# Слаўная армія



Цім. Зарэчны

**Апавяданьне**

... І выбух гарматы, і нейчы прарэзьлівы крык, і грукат калымаг па гарадзкім бруку, і чорныя копы дыму на сінім небе прарочылі нешта вялікае, што неўзабаве адбудзецца. Строкат кулямётаў на ўскраі гораду напамінаў пра сьмерць, і людзі з шклянымі вачыма—у роспачы і зьмешанасьці—беглі насустрач гэтай сьмерці.

Разам з людзьмі бег босы, перапужаны хлапчук — проставалоса-чарнявыя валасы яго раскідваў вецер. Чырвоныя ногі былі ў цыпках, падрапаныя. Касы позірк блішчэў глыбокім спалохам блізкае сьмерці. Чалавеку, што стаяў на вуліцы, здалося: валасы і выраз твару — сэміцкія, нос з гарбінкаю пацьвярджаў гэта. Захацелася пажартаваць з ім, напалохаць яго. Разрыўная куля дзынкнула каля ног хлапчука і стрэл прыгнуў яго да зямлі. Хлапчук растапырыў рукі, як-бы наважыўся схапіць што-небудзь, паваліўся на зямлю, падскочыў і пабег на ўцёкі — па крутаяру, над самаю рэчкаю, усьцяж высокага паркану. Захацелася жартаваць з ім, як кату з мышынай. Другая куля рванула зямлю пад нагамі хлапчука,—хлапчук яшчэ раз падскочыў, перакуліўся і моўчкі паляцеў з крутаяру ўніз—па каменьнях, па раскіданым драту, па аскялёпках шкла—у сонечнае люстра вады. І шкода яму было, што так хутка паляцеў хлапчук. Хацелася яшчэ троху пажартаваць з ім.

З-за шэрага раду дробных крамак вышаў стары яўрэй у чорным лапсэрдаку. Шырокія крысы разьвейваў вецер — на дзьве паловы, як і бараду яго — на ўсё грудзі, сівую. Яўрэй кульгаў, абапіраўся на высокі кіёк, і быў падобны ён—сівы, у доўгім лапсэрдаку на апостала з якой-небудзь провінцыяльнай царквы.

— Чалавек, вы забілі майго ўнука, — ціха праказаў яўрэй.

— Чалавек, майго ўнука звалі Янкель, — яшчэ цішэй прашаптаў стары.—Яго маці, маю старэйшую дачку, учора згвалцілі вашы салдаты.

— Чалавек, яго маці сёньня забілі вашы салдаты, а мужа яе забралі з сабой, і я ня ведаю, дзе ён і што з ім. А малодшая дачка рве валасы на сабе, і я баюся, каб яна не звар'яцела.

— Чалавек, навошта забілі майго ўнука, апошнюю радасьць маю, маленькага Янкеля майго?

— Чалавек, бог адзін, і ён усіх нас будзе судзіць.

Стары глуха ўдарыўся аб распалены сонцам брук. Кругалобы камень ляжаў каля яго галавы, і галава яго была падобна на гэты камень.

Чалавек стаяў над старым, зьдзіўлены нечаканай падатлівасьцю трупехлага цела. Ён нагнуўся над ім, угледзеўся ў твар—вочы былі адчынены, нямігаючы глядзелі ў неба, прыслухаўся да сэрца—яно стукала ціхімі ўдарамі, як-бы стары гадзіньнік, здадзены ў ламбард.

— А ўсё-ткі жывучы!—праказаў чалавек і наважыўся ісьці.

Сонца стаяла на паўдні, і палкія промні яго бязьлітасна палілі твар. Хацелася кінуцца ў рэчку, плаваць у сьцюдзёнай вадзе, плёскацца, як некалі на бацькаўшчыне—у крышталёвым возеры. Але гэты горад — ня бацькаўшчына, ня ціхі маёнтак, і рэчка ў ім—брудная, пратухлая смуродам, у крыві. Апрача таго неабходна сьпяшацца да свае часткі, яна ўжо напэўна падрыхтавалася да эвакуацыі.

Калі трэ' было павярнуць за рог вуліцы, абярнуўся і глянуў на старога. Над ім стаяла на каленях жанчына — у чорным, прыгнутая да зямлі. Стары ўсё яшчэ ляжаў на бруку, і жанчына перавязвала яму галаву.

Чалавек крута павярнуў назад. Ён ішоў шпаркім крокам, пільна гледзячы на жанчыну. А яна — жанчына ў чорным—узьнялася, мгненьне пастаяла ў нерашучасьці, глянула спалоханымі вачыма на чалавека і кінулася на ўцёкі. Калі глядзела—сьлёзы заіскрыліся на сонцы, і нават прыкметна было, як адна пала на брудную зямлю. Пабегла жанчына за крамы, цераз невялікі мост, у вузкі і вілёнчысты завулак. Чалавек спачатку толькі паскорыў крокі ўсьлед за ёй, а потым і сам пабег угрунь, крокамі парушаючы нечакана надышоўшую цішыню.

— Стой, страляць буду!

Жанчына бегла без аглядкі, моўчкі, і неяк дзіўна было, чаму яна ня спыняецца. Верылася, што яна зараз-жа спыніцца, будзе прасіць літасьці, пачне цалаваць пыльнае бульдо ботаў.

— Стой, застралю!—крыкнуў у другі рэз чалавек.

Жанчына аглянулася і яшчэ больш паскорыла бег. Адзеньне перашкаджала ёй бегчы, і яна ўзьняла яго вышэй кален, каб яно ня блыталася паміж ног. У чалавека, што бег на ўздагон за ёй, захалынула сэрца — нечым сьцюдзёна-ільдзістым занялося яно—і закружылася ад хмелю галава,—ён ласкавым голасам парашыў спыніць жанчыну:

— Малодка... пачакай!



Чалавек, вы забілі майго ўнука...

Ледзь ня крыкнуў услед за гэтым:—Маладзіца, дай вады напіцца! — але жанчына схавалася ў пад'ездзе — хмурым і грузкім, ад сырэдзянечча, і чалавек кінуўся ўслед за ёй, у цёмны калідор пад'езда.

Жанчына ўзьбягала па крутой знадворнай лесьвіцы на другі паверх. Чалавек зноў адчуў у сэрцы сьцюдзёнасьць лёду, і частыя ўсходцы замільгалі перад вачыма, як частакол, — захацелася адразу скакнуць на вэранду другога паверху.

Дзьверы ў дом жанчына пасьпела замкнуць, і чалавек праламіў вакно на кухню.

Пад нагамі хрусьцела шкло, і з вялікага пальца правай рукі капала кроў, прагорклы пах на кухні паказаўся балотным, — захацелася разьбіць усе вокны ў доме і пад самы дом падкапаць дынаміт.

Чалавек прыслухаўся да нямой цішыні ў доме. Жанчына, напэўна, схавалася, і ні зашто ня верылася, што яна ня будзе знойдзена. Яна тут, і калі не дагнаў яе на вуліцы, то бязумоўна зловіць тут.

— Прашу ласкаю, выйдзі, інакш будзе дрэнна!

Голас прагучэў фальшыва, і ніхто на яго не адгукнуўся. Зрабілася злосна і крыўдна на самаго сябе. І сапраўды, сьмешны і недарэчны малюнак: на парозе з прытухлае кухні ў бедны агульны пакой стаіць афіцэр слаўнай польскай арміі і лісьлівым голасам просіць нейкую дзікаватую яўрэйку паказацца яму на вочы.

— Маладая жанчына, вы ня думайце на мяне так... Я нічога вам не зраблю...

Голас—фальшывы, зусім ня верыцца, што гэта голас уласны; каб пачулі яго панове афіцэры, то пасьля-б ня далі жыць.

„Фальш, фальш!—думае чалавек. — Я гублю гонар афіцэра, саромлю слаўную армію... Тут патрэбны не сантымэнты, а бомбы“...

— Я кіну бомбу ў вашу кватэру, і ад яе не застанецца камня на камні...

„І самога костачкі не сабралі-б, — думае чалавек, але яму здаецца, што ён запалохаў жанчыну.—Яна спужаецца і выскачыць, як апантаная“...

Па пакоі быў раскіданы пух, і ложак быў не засланы. У кватэры панаваў беспарадак, відаць былі сьляды нейчага гаспадараньня, пад нагамі валялася шкло пабітае пасуды.

— У апошні раз прашу, непакорная жанчына!..

І ў той-жа момант пашкадаваў сказанага. У самім куту заўважыў, ледзь узьнятую дошку падлогі, і ў галаве мільгнула нечаканая думка.

Ціха падышоў да кута падлогі і ўзьняў дошку. Адтуль глянула чарната падзямельля і павеяла пахам застойнага паветра і затхлае цьвілі.

— Загадваю зараз-жа вылезьці з гэтага паганага склепу!

Была цішыня і напружанасьць. Лезьці ў склеп — боязна: можа нажом ударыць пад сэрца або проста выстраліць у патыліцу. Стаяць і загадваць—дарэмна. Яна ўсёроўна не паслухаецца нікіх суровых загадаў.

Аднекуль данесьліся глухія выбухі гармат. „Напэўна чырвоныя наступаюць“, — зьявілася думка, але зараз-жа зьнікла. Яе месца заняла другая хітрая думка: паказаць перапалоханай жанчыне, што яна яму зусім ня цікава і не патрэбна, а самому затаіцца ў кухні і чакаць.

— Чырвоныя бандыты наступаюць, пся крэў! — злосьліва праказаў чалавек і знарок звонка застукаў абцасамі па падлозе, як-бы сьпяшаўся хутчэй пакінуць кватэру.—Я-б табе паказаў, паганая!—дадаў ён ужо на парозе.

З усяе сілы ўдарыў дзьвярыма, але з такім разьлікам, каб яны трохі адскочылі, пакінуўшы невялікую шчыліну для нагляданьня. Плян удаўся, і чалавек, пастукаўшы абцасамі па падлозе якраз столькі часу, колькі, на яго погляд, патрэбна было, каб дайсьці да дзьвярэй, і, ня выходзячы з кухні, але бразнуўшы дзьвярэма на вэранду (дзьверы былі не замкнёны, а ўзяты на засоўку, — засоўку знарок звонка адсунуў), схаваўся за шафаю, блізка дзьвярэй, з такім разьлікам, каб можна было адным вокам бачыць адкінутую дошку падлогі ў куту другога пакою.

Стаяў на карачках, і з гэтае прычыны млелі ногі. Усё гучней і гучней чуліся глухія выбухі з усходу. Ужо можна было выразна адрозьніць нэрвовы строкат кулямётаў і асобныя стрэлы з вінтовак. Але гукі гэтыя ішлі неяк міма, не пакідаючы сьледу ў сьвядомасьці. Уся ўвага і пільнасьць былі сконцэнтраваны на чорнай дошцы ў пакоі.

На чорнай дошцы паказаліся белыя пальцы рукі, і чалавек замёр у затоенасьці. Ён увесь ператварыўся ў гостры зрок,—



Ілюстрацыі Л. Ран

Жанчына бегла без аглядкі

дыханьня ня чуласа, сэрца спыніла сваё трапятаньне, здаецца—абарвалася ад зьдзіўленьня і нечаканасьці, і боязна было, каб яно зноў не аднавіла свой ранейшы шумны бег.

За белымі пальцамі паказалася чорная галава, і валасы на ёй здаліся асмоленымі. А на твары, калі ён вырас над дошкаю, быў прыкмецен глыбокі спалох, і вочы былі на ім—чорныя, як сьпелыя ягады вішні. Жанчына падобна была на цыганку.

Яна ціха вылезла з склепу. Калі ступіла на масьніцу, яна скрыпнула, і жанчына нізка прыгнулася да падлогі. Да дзьвярэй падышла ціха, на пальцах, і спынілася на парозе ў задуме. Чалавек чакаў, прагнуў—каб хутчэй пераступіла парог, а яна стаяла, рукой трымаючыся за лутку.

Калі схапіў яе, яна толькі войкнула:—Ай!—і сьціхла, пакорна падаючы на рукі...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Калі жанчына апамятавалася, яна закрычала дзікім і прарэзьлівым голасам. Было жудасна ад гэтага голасу, і чалавек накінуў на галаву жанчыны падушку.

У пакой увайшоў стары яўрэй, падобны на апостала, з перавязанай галавой і з высокім кійком у руках, і таксама закрычаў глухім, ахрыплым голасам.

Жанчына вырвалася і зноў закрычала, — пакой напоўніўся звонкімі і ахрыплымі гукамі,—было непрыемна слухаць гэты крык.

Чалавек выстраліў у вакно з маўзэра, і жанчына кінулася на калені да ног чалавека:

— Пане афіцэру, ня губіце бацьку...

— Маўчаць, паганцы!—аскаліўшы зубы крыкнуў чалавек.

— Пане афіцэру...

На вэрандзе пачуўся грукат нейчых грубых абцасаў, і людзі ў пакоі насташаражыліся. Жанчына стаяла на каленях, разьвёўшы ў замешанасьці рукі, стары прытуліўся да прыталкі, шкляныя вочы апусьціўшы на падлогу, а перапалоханы афіцэр зрабіў пагардлівы выгляд і ўпяў крывёю налітыя вочы ў кухню.

Дзьверы адчыніліся як-бы самі, і ў пакой ўскачылі два чалавекі з вінтоўкамі. І тут адбылося самае нечаканае: афіцэр пільна глянуў на новых людзей — потных, задымленых, суровых,—і ў мгненьне, як-бы спрунжынавы, скакнуў у вакно. Шкло зазьвінела, і афіцэр разам з выбітай рамаю паляцеў уніз. Людзі кінуліся да вакна, пачалі страляць, але афіцэр кульгаючы, пасьпеў схавацца за будынкам. І калі ён выбег адтуль (відаць яго нехта спужнуў), адзін з новых людзей—старэйшы, аброслы густымі валасамі—стральнуў уніз, у храмога афіцэра. Афіцэр прабег некалькі крокаў і ніцма паваліўся на зямлю.

Клім Грыневіч

# РАГАЧЭЎ

Вечару выпісан чэк —
Плыве фасфарычны змрок...
Іскры лузкае Дняпро
Пырскае
на Рагачэў...
Сіняя шашка —
Друць
Жарыць у сотні вольт...
Зьменіць яе маршрут
Зыбкі,
сталёвы дрот...
Вырасьце стройны дом
Ўсьпеніцца бой
турбін
І ахутае
гарадок
Зор электрычных бінт...
Будзе гуляць, сьвяціць

Срэбрам дняпроўскіх хваль —
Тысяча
тысяч
дзін,
Дзесяткі
мільёнаў
ват!..
...Тысячы шын загракаюць,
Песень зьвіюць набой:
Варштаты кардоннай
фабрыкі
І лесапільны
завод...
Шумам заліты вуліцы,
Звонка гучыць малаток...
Напорна расьце,
будуецца
Гарадок...

Пілы, рубанкі
лёскаюць, —
Комуны мацнее снасьць...
Мурамі будоў прарастае
Агро-комбінат...
...Вечару выпісан чэк —
Дрыжыць
фосфарычны змрок...
Іскры лузкае
Дняпро
Пырскае
на Рагачэў...

1931 г.
г. Рагачэў.



Кузьнецибуд. Газаачышчальнік домны № 1.

Нарыс

Вячаслаў Палескі

# ЛЯСНЫ ГАРАДОК

## Няўдалая гульня ў ачко

Гэты двор абгароджаны соснамі, дубняком. Пакрыты пластам сыпучага, скрыпучага сьнегу. Абгароджаны вятрамі. Вятры гоняць сьнягі нагінаюць сосны і засыпаюць пабелам шырокі і прасторны двор.

На дварэ стаяць кары. Іх каля сотні. Іх цяжка пералічыць. Палазы схаваліся пад пластам сьнегу і тарчаць кары маленькімі бугаркамі па ўсім двары.

З паўночнага боку крыху цішэй, хоць і сівер вялізны дуе. З паўночнага боку двара стайня. Хутка будавалася. Ставілі слупы і змацоўвалі сукаватымі жэрдкамі, пераплятаді лазовымі віткамі, бярозавымі адросткамі і калючай хвояй. З надворнага боку ставілі кулькі аржаной саломы, каўрыжыны падгніўшага і запрасаванага сена.

У стайні па намерзлых купінах стукаюць падкаваныя коні. Як з комінаў дым, вылятае з ратоў пара і растае пад прапахлымі стрэхамі. Па стрэхах ссоўваецца зімовы пабел і круціць кулькі сіверны вецер.

З усходняга боку стаяць баракі. У два радкі, з нумаркамі на дзьвярах. З комінаў вылятае густы, падсквараны дым, сівер шматае яго адразу-ж і рэдзенька сьцеле па зямлі. Па зямлі, разам са сьнегам, разам з холадам. Замятае сьцежкі паміж баракамі, замятае сьляпенькія вокны ў іх.

На нарах, на сплеценых матах, на кажухох, на чуйках ляжаць людзі. Чадзяць куродымам самасейкі, дапіваюць з кухляў гарачы чай—кіпяток, разьведзены на чобрыку і вішнёвым цьвяту.

Гутаркі ня сьціхаюць. Гутаркі кратаюць густую цішыню.

— Бокі самлелі. Ці бачна дзе, каб у заработках ды трэці дзень лёжа ляжалі. Гэта-ж...

— Гэта-ж трасца на іх. Бяз пугі не паедзеш, а пуга—авёс.

— Трактары нават вушы павесілі. Трэці дзень гаручых нейкіх нямашака.

— Бокі самлелі лёгма лежачы.

З аднаго боку пераварачваюцца на другі. Скрыпяць пачарнеўшыя нары і сьціраюцца саламяныя маты.

Вецер намятае барханы. Упарта і настойліва стукае ў барачныя дзьверы, з шумам налягае на іх і амаль не сарве з завесак.

— Мікола, прычыні дзьверы. Вятруган які.

Мікола падымаецца з нараў, па гліняной сьцежцы ідзе да сянечных дзьвярэй.

— Мікола, хутчэй зачыні. Дме як.

— Ды дзе зачыні. Гэта ідуць да нас.

У барак уварваліся стужыны ветру. Кашматнулі языкамі воўну на кажухах, націснулі на плечы ўвайшоўшых і крыху прыгнулі іх.

— Здарова, хлопцы.

— Здарова. Добрыдзень,—па-рознаму адказвалі барачнікі, падніmаліся з нараў, садзіліся, падабраўшы ногі пад сябе.

— А што прашарманіце?—хціва пытаўся рыжаваты, з пацёклымі вачыма і скарэлымі вусамі, дзядзька.

— Што прапяеце?

— Мо' пра авёс, мо' пра харчы, мо' пра зарплату?

Тыя, што прыйшлі,—прадстаўнік ад партыйнай ячэйкі і загадчык вучастку,—амаль у адзін голас:

— Пра авёс, пра харчы, пра зарплату.

З куткоў падсядалі бліжэй, камочкамі прыліпалі да гурту.

Было выслухана ўсё. Чыгуначная ветка, спецыяльная адведзеная ў лес ад рэчыцкай дарогі, замецена гурбамі сьнегу. Па сьнегу прайсьці чалавеку льга, а цягніку—нельга. Вагоны аўса, вялізарныя бакі гаручага для трактароў стаяць на суседняй, рэчыцкай станцыі. На вучастку стаяць трактары, у стайнях адно падмочанае сена жуюць пахудалыя коні, возьнікі трэці дзень труцца аб маты.

— Комсамольская брыгада сёньня ня ідзе ў лес. Ветку чысьціць ідзе. Авёс і гаручае прывезьці трэба.

— Дык гэта і нас пагнаць хочаце?

— Яшчэ тыдзень будзем ляжаць.

— Вось у гэтым пайду,—тыцкае парванай валёнкай ранейшы рыжаваты, з пацёклымі вачыма і закарэлымі вусамі.



Варштатабуд. За работай на шліфавальным варштаце

З гурту адразу-ж падымаецца некалькі. Але гаворыць адзін:

— Вас ня гоняць, ніхто ня гоніць. Да вас гаварыць па-чалавечаму прыйшлі. А што, авёс трэба?—Трэба. А дарога замецена? Чысьціць, значыць.

— Пэўне. Чымся ляжаць тут ды байкі весьці, лепш хоць у сьцюжу, але папрацаваць.

— Бач на іх. Працаваць...

— Хлопцы, ня ідзі!..

Рыжаваты, з пацёклымі вачыма, адскаквае ў бок і выцяг[…] з халявы патрапаныя карты.

— У вачко! Вашых н-е-т...

Двое адыйшлі. Але з гурту адразу зноў устала некал[…] чалавек. Наперабой гаварылі:

— Хто хоча ісьці?

— Хто не паслухае рыжага?

— Хто ў брыгаду?

Да рыжаватага, з пацёклымі вачыма, яшчэ адыйшло чалавек каля дзесяці.

Астатнія, трыццаць апраналі кажухі, чуйкі. Нацягвалі аве[…]чыя шапкі, кушакамі сьцягвалі растуленыя полы.

У барак дуў сіверны вецер. Дзьверы ня хлопалі—праз доўга выходзілі людзі на ачыстку сьнегу.

## Да ветру паварачваюцца сьпін[…]

Сьнег заходзіць ажно за калены. З-пад сьнегу вырываю[…] абледзянелае гальле, аднагадовыя дрэўцы і суччa павален[…] дрэў. Шумяць і хістаюцца хвоі. Хвоі пад ветрам, пад бур[…] хвоі над сьнегам, над людзьмі, над песьнямі.

Шарубскі нагінаецца. А вятры шумяць. Шарубскі га[…] па камлі сякерай і прасякае глыбокі жалабок на тым […] на які будзе валіцца сасна. А хвоі ў вятрох шумяць. […]рубскі энэргічней часьціць сякераю і хапаецца за ручку […]

— Бяры!

Навакол сякеравы стук, пілавальны шораст.

— Андрэйчык, бяры!

Андрэйчык, рыжаваты, з пацёклымі вачыма, і рослы.



Падрыхтоўка да вясновай сяўбы

Акалелымі пальцамі, выцягнутымі з цёплых рукавіц, ён скручвае цыгарку і ўсьміхаецца невядома чаму і ад чаго.

— Адпачні. Прысядзем на пянёк. Пакурымо.

— Ня сорамна? Хвіліну назад курыў і зноў. Абрубшчыкі без работы сядзяць. Рэж...

— Можа на сваім працуеш?—злосна і пагражаючы пытае Андрэйчык і нэрвова дзёргае заросьленымі шчаляпінамі.

— Ты, Андрэйчык, брыгадай прыкрываешся. Мы цябе турнем з яе. Гультайнічаць нечага.

Шарубскі нагінаецца. Зноў бярэ сякеру і зноў глыбіць жалабок на камлі. Вецер шуміць. Адрэйчык пахкае вялічэзнымі дыхамі дыму, бярэцца за пілу.

— Рэжам!

У злосьці спорылася работа. Ніца пазіраў Андрэйчык і, ні слова не гаворачы, моцна і рыўкамі адцягваў пілу. З трэскам і грукатам клаліся хвоі на зямлю і ляжалі пад ветрам, пад ...гам, пад песьнямі. Пілаваліся бярвеньні на крыжы, на ...роўку, на бачкарку. Пазьней клаліся ў сьцены вялікіх будоў і тварыў чалавек з іх хлеб, і радасьць сваю.

... Нацянькі ідзе чалавек. У яго ўстрывожаныя рухі, у яго ...естрапаныя полы, раскінутыя ветрам на два бакі.

— Прымеце ў брыгаду.

Шарубскі мерае вачыма чалавека. Пытае прычыну, цікавіцца.

— Я ня то, што Лодысяў. У мяне спрыт і кваліфікацыя, ...-бы сказаць. Лодысяў і бяз спрыту і без кваліфікацыі, ...-бы сказаць. Усе мы ў арцелі. А калі ў арцелі—атрымоўвай пароўну. З Лодысявым пароўну я атрымліваць ня буду.

Пілаваньне прыпынена. А вецер—не, скаголіць, сьнягуе. ...шоўшы становіцца за-ветрам і шыю ўцягвае ў цёплы каўнер. Андрэйчык курыць, гаворыць весела:

— Гэта з Кашуровай арцелі. Ня ведаеш?

Шарубскі з боку на бок ківае галавой, значыць, ня ведае.

— Міколка, пераходзь. Мы ў брыгаду прымаем—дае згоду Андрэйчык. Прыйшоўшы, відаць, задавальняецца. Але Шарубскі і перапыняе:

— Ты вось зразумеў карысьць брыгады. А ці растлумачыў ...ым у арцелі?

— ...лумачыў, даўбіў.

— ...што?

— Нічога. Упёрліся. „Свае—гавораць—хіба мы не на адзін ... хіба за баб пасварыліся?“

— Мала тлумачыў. А ў сваю брыгаду мы цябе ня прымем. Ідзі ў арцель, арганізуй брыгаду там. Людзі знойдуцца. Наша брыгада дапаможа. Прыйдзем да вас на вучастак, раскажам пра сябе. І будзе справа.

У дрывяное цела ўразаецца зуб'е пілы, з трэскам і шумам кладзецца сасна на зямлю. Мікола доўга стаіць у задуманьні, паварачаецца сьпінай да ветру і перапытвае:

— Дык, кажаш, ня прымеш? У сябе арганізаваць?

— А па-мойму, прыняць. Хай там арцель будзе. Хай людзі спакойна працуюць. Невялікія цацкі і брыгады вашы.

Шарубскі ня слухае Андрэйчыка. Падыходзіць да Міколы і глядзіць у самую донь вачэй.

— Заўтра ўсёй брыгадай прыдзем. У цябе на вучастку брыгаду арганізуем.

— А ты думаеш... Давай.

І вецер сьціхае ў вяршалінах сосен.

## Людзі розныя і вечары розныя

У густых і чмарых вышынях, на сінім небасхіле, над спэктрамі сьнягоў і над зямлёй плаваюць блукатыя зоры. Плыве маладзік з поўным сьветлом і поўнай серпавінаю. І гэты лясны гарадок, з дзесяткам прыгнутых баракаў, даўжэзнай стайняю і шырокім дваром, заціхае знадворку. Толькі недзе ў стайні праз сьцену чуваць галасы:

— Цэ золата, а не авэс.

— Ледзь, він коні жыруць як.

Жывуць у гэтым гарадку дзьве сотні людзей. Возьнікаў, лесасекаў, дзесятнікаў, канцылярскіх работнікаў, афіцыянтак. Беларусаў, расійцаў, украінцаў, яўрэяў. Колгасьнікаў і аднаасобнікаў.

Дрымучыя і багатыя лясы. Дзьве сотні працуюць лесасекамі, вывозяць драўніну на станцыю, трылююць з нізінаў на ўзгоркі, загатаўляюць бачкарку, цёс, вялізныя крыжы. Рыхтуюць надзейны матэрыял для соцэнь новабудоўляў, для аснашчваньня проектаў, чарцяжоў і вялікіх плянаў.

Вечарамі розныя адпачынкі.

Вечарамі частка ў клюбе. Там радыё. Там хлопцы засыпаюць ад песень, ад гармоні, ад жартаў. Ладзяцца лекцыі, дэманструюцца кіно-карціны.

— У клюб—цягнуць адзін аднаго.

Але частка ў бараках. Аглядаючыся па бакох (сорамна), выцягваюць карты са скрынак, з-пад падушак і „дуюцца“ ў ачко. Сотні рублёў прагульваюць. Гульня ў ачко стала ганьбой у бараках, але ня ўсе пакінулі яе.

— Ты карту схаваў.

— Нет, это он.

— Ніт нар унтэр, гунт.

— Тэн такжэ сховал.

— Ня рыпайсэ. Цэ сьмішкі цількі.

У картачным шуме мяшаліся галасы, мовы. І заўжды даходзіла да боек.

Гэтага нельга цярпець. Комсамольцы, што працуюць у лесе тут, праводзяць гутаркі ў бараках. Няпрыхільна сустракаюць іх карцёжнікі, але слухаюць гутаркі, патайна трымаючы карты ў запазухах. Партыйцы, што працуюць у лесе тут, разгортваюць культурна-масавую. Цяжка даюцца перамогі. Але перамога, узятая ў цяжкасьцях, самая ганаровая і пачэсная перамога.

Пытаньне арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў і тут, у бараках, першачарговае. Колгасьнікі з „Заходаў“ працуюць тут цэлай брыгадай. Але ў ёй была абязьлічка, безадказнасьць. Ва ўсіх на вачох худзелі і апускаліся коні, ламаліся палазы, капылы, вязьзе.

Вечарам у клюбе партыйная ячэйка зьбірала брыгаднавытворчую нараду. Прыйшлі ўсе. У бараках пасьмейваліся:

Колгасьнікаў судзіць пойдзем.

— Даколгасіліся. Езьдзіць няма на чым.

У клюбе брыгаднікі не падыходзілі да стала. Мясьціліся бліжэй да куткоў, да дзьвярэй. І чулі як шапталі:

— У пераплёт бяруць шкетаў гэтых.

— З „Заходаў“.

Але нарада па-дзелавому выкрывала прычыны і вінаватых. Добрая была нарада. І з куткоў, ад дзьвярэй брыгаднікі падыходзілі да стала, на сьвятло.

А калі ў брыгадзе ліквідавалі абязьлічку, устанавілі адказнасьць, дабіліся дысцыпліны, брыгада стала перадавой. Перадавой па выпрацоўцы, па якасьці, па арганізаванасьці.

Уначы зусім сьпіць гарадок. Бяз жывога вартавога. З соснамі—вартаўніцамі, з месяцам—вартаўніком.

Глыбокая ноч, за поўнач ужо. І ціша такая, нацятая да адказу. Раптам вырываецца песьня. Песьня гэта: брыдкія словы, п'яны разладжаны такт, хруст галін, шум шаруну пад няроўнымі, ухабістымі крокамі.

За баракам завыў сабака. Выў гэты ў шэрань лясную паплыў. У ціхую пару выў — гэта жудзь, гэта строгі і млосны жах.

Наперадзе рыжаваты Андрэйчык, з пацёклымі і памутнелымі вачыма. Побач і побач—па адным.

— Выпілі?

— Га-а?..

— Пытаю—выпілі? Добры чалавек Майсей?

— А брыгады дрэнныя.

— Развалім.

Ідуць трое. І самі і сьцені іх хістаюцца. Варочаюцца ад васількоўскіх кулакоў. У тых самагонкі хопіць і на зрыў лесазагатовак вялікае жаданьне ёсьць. Хістаюцца трое. Гасьцямі сёньня былі. Нясуць яны словы тых, што паілі, нясуць яны думкі, тых, што гладзілі пяшчотна па тварах і прасілі:

— У гарадку падрабатвайце. Гэтым сволачам—кол у глотку.

У трэцім бараку бразгаюць дзьверы і сьціхла ўсё. Сьпіць ноч. Але ня сьпяць ноччу.

На другім вучастку Шарубскі арганізоўвае брыгаду лесарубаў. У трэцім бараку ладзяцца перашкодзіць яму, сарваць вялікія пляны.

Сьпіць ноч. Але ня сьпяць ноччу.

## Шум у лясным гарадку

— На сход.

— У клюб.

Барабанілі ў маленькія, зашэраўшыя вакенцы. У стайні ў сьпешку давалі коням харчы. У бараках хутчэй даядалі сялёдку, дапівалі чай заварany на мацярынцы, чабрыку і вішнёвым цьвіту. У клюбе, добра адбудаваным доміку, займалі лаўкі, капцілі папяросамі, абівалі каля парогу сьнег і плявалі на падлогу.

Сход адкрываў сакратар партыйнай ячэйкі. Гаварыў пра становішча з лесавывазкай, загатоўкай, траляваньнем. Процант заданьня не даходзіў да 100. Гарадок ня браў патрэбныя тэмпы.

— Тэмпы трэба ўзяць.

З лаўкі паднімаецца Андрэйчык, азіраецца па баках, папраўляе шапку, мацней сьціскае полы і шырокі кушак.

— Хлопцы, ці ня можна цішэй? На ліха гэтая вашая гонь? Людзі толькі селядцы ядуць. Кіпяток толькі п'юць. А ў вас гэткая гонь. Ай-ёй!

— Яно, бы-сказаць, як і правільна, быццам. Мы-та работаем, але вось каб продукцыйкаў на чалавека прыкінуць паболей.



**Зборка дызэля Д—40 на харкаўскім паравозабудаўнічым заводзе**

**Іжорскі завод. Абсталяваньне цэхаў прыточна-выцягвальнай вэнтыляцыяй**



— Цукру не дала коопэрацыя

— Крамнік, нацэўна, згламэздаў.

Дым ад папярос гусьцеў. Лямпавы язычок хліпата дрыжэў, не хапала паветры, на шкло клалі кавалачак скрынкі ад сярнічак. Шугала дымам, марозам, вільгацьцю і прэласьцю ног. Пахла лесам, хваёвай смалой, бярозамі.

Слова атрымлівае Шарубскі. Падышоў да стала. Паглядзеў навакол, нібы спазнаваў кагосьці. Нядоўга гаварыў. Каротка гаварыў. Пра кулацкі ўплыў, пра някультурнасьць і адсталасьць многіх.

— Мы ўсё дрэннае нішчыць будзем.

— Што-ж у нас дрэннае?

— Што-ж у нас нішчыць?—непакоіліся на лаўках.

Сувязь з васількоўскімі кулакамі—расказваў Шарубскі.— Вып'е чарку, а паслужыць яму на-яць. Вып'е дзьве, ды трэцяй чакаць будзе — чалавека заб'е. Вось у нас што. У брыгаду запішацца і знутры разьдзірае. Вось што.

Андрэйчык занепакоена і напалохана пракаўзануўся да дзьвярэй.

— Ідзем,—шапнуў ён суседу.

— Не, не пайду,—галосна заявіў той. — Не пайду. Хай усе ведаюць, што піў я разам з Андрэйчыкам і што піць з ім болей не буду.

Шумелі. Чуліся галасы абурэньня, галасы дакораў, галасы абароны.

— Гнаць яго з гарадка.

— Навошта? Што гэты рыжы зробіць?

Андрэйчык праціснуўся да дзьвярэй. Рыпнулі дзьверы, павеяла халадком, павольна завагалася пакрывала дыму.

... Брыгада з колгасу „Заходы" дала гарадку свой рахунак:

— Павысіць норму выпрацоўкі, якасьць работы. Сыстэматычна даваць перавыкананьне заданьняў.

— Падтрымала брыгада Шарубскага, самая старэйшая брыгада на вучастку. Падтрымала брыгада Міколы, толькі-што організаваная на другім вучастку. Тры значныя адзінкі ўключыліся ў спаборніцтва. Гэта ня гонь, гэта выказаная воля людзей, гэта паказ сьвядомасьці чалавечай. Гэта нашы тэмпы, народжаныя ў цяжкасьцях, сярод вятроў.

На двары былі зоры. Ціхая ветраная гонь. Па-маленьку плылі сьнягі. У бараках пасьля сходу запальвалася сьвятло. Цьвілі гутаркі. У клюбе выпрацоўваўся плян спаборніцтва трох лесасечных брыгад.

У санлівай стоме стаяў дрымучы лес. І чакаў людзей, чакаў піл, тэмпаў, спаборніцтва. Кожную раніцу будзе яшчэ больш мацнець лясны шум, шорганьне піл. Будуць расьці ярусы зьвезеных матэрыялаў і дроў. Будзе расьці лясны гарадок, гарадок тэмпаў, гарадок перамаганьня кулацкай хлусьні і дзейнасьці.

Лясны гарадок жыве. Лясны гарадок ня сьпіць.

# Сякеры

Я. Субач

Апавяданьне

Досьвіткам устаў Адась Бабіцкі. Запаліў лямпу. Закопчанае, доўга ня выціранае шкло, неахвотна прапускала мядзяна-каламутнае сьвятло.

— Хлопцы! Пара падымацца!

Па аднаму паднімалася з ложкаў брыгада маладых лесасекаў. Пазяхаючы, кожны заклапочана глядзеў заспанымі вачыма на вокны—ці няма ўжо прыкмет сьвітаньня.

Слабое сьвятло лямпы ашуквала, адганяючы ад вакон яшчэ кволы дзень.

Адась, уссунуўшы на ногі старыя латаныя боты, пашоў пад умывальнік.

Выціраючыся, ціха з кароткімі паўзамі, працадзіў:

— Ты, Паўлюк, ідзі, праведай начыньне...Каб у парадку ўсё было. Вазьмі каго ў помач, мо' падвастрыць што здарыцца... Каб замінкі ня было потым.

Паўлюк, накінуўшы шапку на рудую, як сухі ядловец кучму валасоў, грузна пакрочыў да дзьвярэй. Сілай і трывааласьцю веяла ад яго крыху згорбленых шырокіх плячэй, ад ...вых у сярэдзіну ног і абветранай валовай шыі...

... Ага-а-а,—схамянуўся ён, ужо ўзяўшыся за клямку. І пера... ў паветры быццам па галасах нявіднага гармоніка ...і правай рукі, моўчкі вярнуўся да Адася.

...сь гэту звычку ведаў даўно.

...ы і ўся брыгада кеміла, што Паўлюк нешта папрасіць, ці ...ытацца хоча, калі перабірае пальцамі...

Адась прыжмурыў вочы:

— Ты ключэй ад кладовай ня браў?

— Адгадай,—крыху заікаючыся сказаў Паўлюк і падкінуў у гору вялікі палец правай рукі...

Нядоўга бавіўся Паўлюк у кладовай. Як звар'яцелы, уваліўся ён у барак, трымаючы па сякеры ў абедзьвюх руках.

Аж у сполах кінула некаторых.

Гнеў перакасіў пульхны твар Паўлюка, рэдкія бровы ссунуліся на зялянкаватыя вочы, чырвоныя, як сьпелыя вішні вусны—дрыжэлі.

— Ізноў пазублена некім 5 сякер, а 2 пілы як у ваду боўтнулі, амаль прашаптаў ён.

— Ум-гу-у... каторы раз!—ні то запытаў, ні то адказаў Адась Бабецкі.

Паўлюк зьдзівіўся панура-спакойнаму тону Адася. Злосьць вокамгненна пералілася з сэрца ў твар. Яшчэ больш спахмурнеў Паўлюк.

— І сёньня да пацёмку ня высячам заданьня. Будзе старым лесасекам зачэпка для кпінаў і сьмеху.

Адась пранікліва паглядзеў на яго і сурова сказаў:

— Высячам! адвастрыце сякеры.

А праз хвіліну спытаўся:

— Чые пілы прапалі?

Адама Вінцука і Кастуся Кульбы.

— Вы будзеце складваць шпалы ў штабэлі.

Ад бараку да нядаўна пракладзенай дарогі выбягала вузкая імшыстая сьцежка.

Рэдка перакідаліся адрывістымі, кароткімі сказамі маладыя лесі екі.

Раніца падабралася пад 9 гадзін.

На прагалінах дымілася непраглядны васеньні туман.

Аднекуль з блізку даносіўся густы ст... сякер.

— Спазьніліся,—узбуджана выціснуў праз зубы Адась.

Хлопцы набавілі кроку...

Прышлі на месца крыху не ў пару.

На дарозе старыкі іх спаткалі глумам.

— Што комсамольцы?! І сёньня зашыліся! Адсталі...

— Глядзі за сабой,—агрызнуўся Адась.

— Га-а-ага-а-а-а,—зарагаталі тыя.

— Бач ты, не спадабалася! Праўда вочы коліць... А нас абагнаць памыкаюцца...

Адась аж вусны закусіў.

— І перагонім.

— Языком.

Адась змоўк. Супакоіліся і тыя.

Толькі дрыматны лес шуміць і шэпча—патаёмна, неразгадана. І канца няма яго бяз-языкаму гоману.

І няўцямна, на ўсе лады шорхаюць і сьвішчуць пілы. Пошчакам коцяцца па лесе ўдары соцен сякер.

Скінуў Адась верхнюю кашулю. З ім пілаваў лепшы ўдарнік—Пякарскі, высокі касьцякаваты хлапец. Лёгкі, але сьцюдзёны вецер забіраўся ім пад споднія кашулі і надзімаў іх як ветразі.

З рыпаньнем і трэскам валіліся стагодныя хвоі.

Падстрэленымі птушкамі падалі сакавітыя бярозы.

Адась з камля кожнага дрэва памечанага да сьпілоўкі спрытна і старанна здымаў сякерай верхні пласт кары.

Пякарскаму гэта надакучыла Ён ня вытрымаў.

— Кіньма валаводзіцца Адась, губляць час...

Самі сабе шкодзім.

— Ня кеміш! піла ня так скора прытупіцца.

— Навостраць!

— Хто? Тры ня справяцца вастрыць на дваццацёх. Ды і піл запасных не хапае ўсім...

— Адась! Адась! — крыкнуў Пякарскі такім голасам, як быццам здарылася нешта нязвычайнае.

Адась павярнуўся. Водаль стаяў зьбянтэжаны Паўлюк, вінавата лыпаючы вачыма.

Падпілаваная ім хвоя павалілася не на зямлю, а на камлістую ёлку, ашчарэпіўшы яе сваімі галінамі.

Адась узьюшыўся.

— Калі ты навучышся валіць лес? Няхай Данілавіч, дык ён навічок.—Ня іначай—сумысьля, — панізіўшы голас кончыў Адась... Эх гора-комсамолец.

Апошніх слоў Паўлюк не пачуў. Няпрыкметна падступіў вечар. Дзясятнік акрыліў брыгаду Адася, абрадаваў.

— На 5 кубамэтраў больш загатовілі за дзядзьку Рыгора.

Дзядзька Рыгор зморшчыўся, спытаўся:

— А ў чыёй брыгадзе больш народу?

— У гваёй.

— Вядома, яшчэ пытаецца,—усьміхнуўся Паўлюк.

— І работа чыстая,—дадаў дзесятнік.

— Такое сьвята ў іх раз у год бывае,—адходзячы, кінуў дзядзька Рыгор.

Адасява брыгада павесялела. Толькі брыгадзір быў задумёны.

Пякарскі зацікавіўся:

— Чаго журышся, Адась?

Эх! так сабе ўхіліўся Адась ад гутаркі.

Барак сустрэў іх зазыўным водарам паходнай кухні.

Павячэраўшы,—заселі хто за шашкі, хто за газэты.

Бралася пад поўнач, як ляглі адпачываць. Адасю не давалі спаць вышчарбляныя сякеры. Безьліч здагадак перавярнулася ў яго галаве. І з іх ён толькі за адну ўхапіўся.

„Нехта са сваіх. Каторы дзень запар псуе то пілы, то сякеры. Але хто? Уся брыгада комсамольская“.

Наважыў не паспаць ноч, дзьве, але вывудзіць ворага.

Ноч падцякала пад 3 гадзіны.

Вочы Адася змыкаліся. Неймаверных патуг каштавала яму расплюшчваць іх.. Раптам... нехта заварушыўся на ложку. Адась насьцярожыўся. У бараку ціха да звону ў вушах.

„Нехта перавярнуўся на другі бок... Глупства“.

Але неўзабаве... Асьцярожныя крокі набліжаліся да Адася.

Адась затаіўся, нацягнуўшы на галаву коўдру...

„А-а-а... хто-б мог падумаць?“—ледзь ня крыкнуў Адась... Паўлюк вымаў ключы з Адасявых штаноў.

— Бяры! Бяры,—падумаў Адась.—Сьгоньня ў цябе ня выгарыць“...

Вопрамецьцю апрануўшыся, Адась разбудзіў яшчэ некалькіх хлапцоў.

Астатнія, пачуўшы галасы, самі папрачыналіся.

Ціха крадучыся пашлі да кладовай.

Ад Паўлюка не ўтаіўся шум крокаў... адчуў, што ўсё прапала... Але ўцячы ня справіўся... У дзьвярох паказаліся Адась з хлапцамі.

— Не падлазь! засяку! рыкнуў Паўлюк.

— Хлопцы!—загадаў у адказ Адась,—запірайце дзьверы. Хай пасядзіць там. Непадалёку раніца. Вартаваць сам астануся.

Ходзячы ўздоўж кладовай, Адась разважаў: кім можа быць Паўлюк Кулагін? Агэнтам клясавага ворага, ці самім ворагам?

„Пралез-жа вось, кіпеў Адась,—ды і мы тут крыху падгадзілі. Але-ж комсамольскі білет? Даведкі аб 10-гадовым стажы пастуха. І дзе ён усё гэта дастаў сволач“...

Досьвіткам думкі Адася патрывожыў конскі тупат... потым ён пачуў, як саскочылі з каняй і пастукаліся ў дзьверы бараку.

Драмаўшыя хлопцы былі ўпэўнены—Адась стаміўся, хоча каб яго падмянілі.

Адчынілі. У дзьвярох стаялі два міліцыянэры...

Аглядаючы нары, яны спыталіся:

— У вашай брыгадзе працуе ўцякач з высылкі кулацкі сын Паўлюк Шульга?

— Мы яго выкрылі,—у адзін голас адказалі лесасекі.—Толькі ён ня Шульга, а Кулагін.

— Ведаем,—сказалі міліцыянэры.—Дзе ён?

— Хадзем за мной,—прапанаваў Пякарскі.

Адась адчыніў дзьверы.

Згорбіўшыся, з налітымі дзікай ненавісьцю вачыма стаяў Паўлюк у кутку кладовай.

— Ён?—спытаўся Адась.

— Ён самы.

Адась толькі вымавіў:

Вораг хітры.

І злосна сплюнуўшы, павярнуўся да хлапцоў:

— Рыхтуйцеся на работу.



Ал. Пруднікаў

# ДРЫВАСЕКІ

Адышоў ад Менску
Наш цягнік у поўнач,
Месяц з высі меўся
Рассыпаць чароўнасьць.

На палянах пелі
Колассы пшаніцы...
Палявая сьпеласьць,
Дальняя імглістасьць!

А з вакон вагону
Хлопцы пазіралі
На лугі, на гоні
Зелені бяскрайняй.

Села на расе сінь
Ля крупных узьлескаў...
Дваццаць дрывасекаў
Выехалі з Менску.

Дзевятнаццаць хлопцаў,
Ды адна дзяўчына,
Абляглась на локці
Думае аб чымсьці.

За вакном такая
Ліпеньская ночка;
Сустракай ласкава,
Лес, сваіх рабочых!

—Любая, аб чым ты
Думаеш замнога,—
Воч тваіх іскрынкі
Толькі для нямногіх?

—Рада я, ах, рада!
Мне адна ўцеха,
Што і я ў брыгадзе
Хлопцаў-дрывасекаў.

* * *

І калі за садам
Клаўся нанач месяц—
Стрэлася брыгада
З вечна-цёмным лесам.

Навастрылі пілы,
Тапары, як шаблі,
Ці-ж юнацкім сілам
За працаю слабнуць.

Ясені гарбатыя
Дуб, бяроза, граб—
Гулка ў лесе падалі
Ды з-пад тапара.

Выходзілі рана,
Калі рань—віно
Калі за курганамі
Памірала ноч.

Прыхадзілі позна
З песьнямі назад...
...Радасьці бярозавай
Не пераказаць.

Як тут скажаш вершам,
Што за ўсю брыгаду
Дрывасекам першым—
Ліпніцкая Ганна?

Ах, ты наша русая!
Ах, ты наша белая!
Песьню я дару сваю
За тваю ўмеласьць...

. . . . . . . . . . . . .

Так па ўсёй дуброве
Пад гарачым ветрам
Сталі ў шэраг дровы
Ў сотнях кубамэтраў.

Руш, цягнік, іх шпарка
Праз палёў адлегласьці!..
...К менскім качагаркам
Цягнікі пабеглі...

# ГАЛІЕВЫ ЛАНЦУЖКІ

Захад шчэрыў крывавы
бяззубы рот,
дзень канаў у апошніх
конвульсіях.
Дзень сканаў,
але многа яшчэ турбот
пад яе валасамі русымі.

Надыходзіла ноч
і пачатак другое зьмены,
(праляцелі апошнія цягнікі).
Цэх пашоў.

Пілавіньня гарачая пена
ёй абпырсквала твар
і абедзьве рукі.

Пачыналася зьмена...
Хвалявaліся брыгадзіры...
ваганеткі трашчалі
і войкаў ліфт...

Хвалявалася болей
дзяўбальшчыца Міра,
што чамусь ланцужкоў
для яе не далі.
І стаяла дзяўбалка,
як на дыбах замёршы леў.
— Ланцужкоў няма,
і пакуль ня будзе,—
адказаў ёй у роспачы майстра Палей.

—Гэта высылку немцы марудзяць...
—„Значыць новы прарыў.
—Значыць зьмена сягоньня праваліць.
—Значыць спыніцца цэх
бяз галіевых ланцужкоў???
—Не хапіла для зьмены ланцужкоў
галія,
а ты іх не заменіш ніякай башкой!!!"
І голаў дарэмна ламалі
рацыяналізатары.

Зьбіраў прапановы рабочых
партколектыў,
і мералі кожнае слова каратамі,
а цэх станавіўся
і рос прарыў.

І штодня раіліся
майстры й брыгадзіры.

Хацелі паставіць шарожкі,
ці круглыя ставіць нажы.

—Я знаю,—сказала дзяўбальшчыца
Міра,—
як сточваць Галіевы ланцужкі!

І так ухвалілі,
працавала тры дні нажаточка,
і жартам здаваўся ім сон цяжкі.

Нарэшце а трэцяй апошняй начы
дзяўбальшчыцам выдалі новыя
ланцужкі.

І спрытна з дзяўбалак пабеглі
дэталі
пад націскам Мірынай моцнай рукі...

І цэху хапала ланцужкоў Галія,
хоць Мірыны гэта былі ланцужкі.


Нарэзка зуб'яў шасьцярні для блюмінга


Выраб фрэзаў для савецкіх фрэзэрных варштатаў

Завіўка спружын для сельскагаспадарчых машын



Наскочыла зіма неўспадзеўкі.

Сьнегу намяло—гурбы. Вецер віхрыў крупчасты, нібы шрот, сьнег. З посьвістам круціў—муціў у полі яго, блытаўся ў ашмоцьці саламянай страхі, праз шчылінкі ў хлеў шыўся, з рогатам пляваўся жорсткімі скруткамі сьнегу. Хлявы былі старыя. Аджылі век свой.

Карабастыя рэбры—бярвеньні скрозь пасечаны шашалям на дзіркі. Між бярвеньня ўгняздзіўся грыб асьлізлы, мох. Ветру выгода і радасьць—шмат дзірак ёсьць.

Колгас—на вачох вёскі. Хто толькі языком пачэша, гамонку пра колгас пачне, што непарадкаў шмат ёсьць (а пра добрае ні слова, сабе на розуме трымае, пра благое больш гамонку вядзе). А хто і ўкалоць ахвоту мае. Словамі, што джалам пячэ. Сабраліся людзі ў хаце: бабы на папрадухі, а мужчыны от так—сабе—пагутарыць.

Зьмітрок аж кіпіць. Рукамі ўзмахвае, носам шморгае нэрвова, скубе руды клок барады сваёй. Кажа:

— Па маёму ў калгасе дабро марнуюць толькі... Гэта-ж пагуба, а ня праца. Фэрму арганізавалі, а што карысьці. У хляве, што ў полі тым вецер баль гуляе. Ды і карміць няма чым. Пагнаілі сена, а зараз хоць зубы на паліцу кладзі... Падохне скаціна... Што мухі адсыплюцца пакуль вясна.

Анупрэй выбіў люльку аб абцас, і дастаў партабак з кішэні, каб зноў набіць і ўставіў сваё слова.

— Каб гаспадарку гэную чалавеку добраму—гаспадару, было-б і сабе і цзяржаве.

Вядуць гамонку марнейкаўцы. Кожны думку дае сваю. Тэма адна: колгас, іх—заўтрашняя гаспадарка.

— Пэўне, што гэтак. Да пашы не дацягнуць...

— Чаго вы мужчынкі, усхадзіліся, перапыняе Мікола і ўсьміхаецца, ці-ж запамяталі, што колгасцы сілос маюць... Гэтулькі бульбяніку, нацыньня напакавалі...

Рогат усьпеніў гаворку.

— Га-га... Ха-ха-а... Паядуць ужо... Чакай!.. Дзе бачна толькі, каб скаціне бульбянік гнілы давалі... Не к дабру выдумкі гэныя...

У хату ўскочыў клубок марознага паветру, хлынуў да газоўкі, а за ім увайшоў Нічыпар. Прывітаўся. Абтрос сьнег са сьвіты. Закурыў.

— Як-жа! хаця, гаспадарыце, вы колгасцы,—запытаўся нецярпліва Анупрэй.

Ат жывём сяк-так, гаспадарым патроху... З кармамі-ж зусім гора... Мякінішча адно, ды і таго ня хопіць да вясны.

— Вам чаго гараваць, гэтулькі сіласу заклалі!.. Уга — наколькі хопіць...

На вуснах людзей яшчаркай мільганула ўсьмешка.

Нічыпар адказаў праз момант.

— Што толку з гэтага... Шмат дзе рабілі сілас, ды толькі глупства адно. Гніе. Ня можа быць у зямлі бульбянік. Сапсуе—атрутай будзе, а ня кормам для жывёлы...

— Ды ўжо бачыцьмем, хутка нашы даставаць будуць.

— Казалі ўвосень яшчэ, што гэта забаўкі адны. Спраўдзяцца словы... Згадзіліся мужчыны з Нічыпарам.

— Гібее гаспадарка гэткая, аж сэрца баліць, калі бачыш, што дабро гнюсць гэтак...

— Ото-ж... Распаўзуцца на весну, як галодныя мышы...

4

— Колькі разоў казалі. Ногцічу—старшыні колгасу — трэ' паруліца барджэй, каб хлеў як дагледзіць. Халадзеча. Каровы малако ўбавілі. Да гэтага яшчэ—догляд дрэнны. Нічыпар з Мікітам ані ня робяць. Саломы ня дбаюць каб прывезьці нават,—жалілася Ганна брыгадзіру па догляду. Ногціч матаў галавой, як конь, што замуліўся ў хамуце, рукамі разводзіў.

— Пасьпела зіма гэтак—не агледзіліся. Малацьбу ня скончылі-ж... Сілы не стае ўхапіць за раз усё. Няма паставіць каго замест Нічыпара... Няўдала робіць ён, не па-колгаскі. На сходзе абмяркоўваць трэ'...

Гаварылі аб працы фэрмы і комсамольцы. Абмяркоўвалі на сходцы, як найлепей наладзіць працу фэрмы. Краіна—чакае продукцыі.

Казаў Яўхім, што даглядае кароў на фэрме:

— Трэ' перш за ўсё хлеў уцяпліць. Дзіркі затынкаваць, каб вецер ня шугаў...

Перапыніў Пётра задорным выгукам.

— Даёш!.. Справу Яўхім кажа. Суботнік зробім у выходны...

Пятрусь чакаў думкі таварышоў. І вочы красалі радасьцю. Ухмылка цьвіла на твары.

Падхапілі комсамольцы:

— Добрака...

— Гэтак і зробім...

— Мы-ж узор працы павінны даць. Каб фэрма была як сьлед,—зазначыў Хвядос.—Паваюем...

Хтось з хлапцоў, што купкай зьбіліся ў баку глуха выцісну́ў:

— Дыхнуць не даецце. Выходны і той рабі... Мала ўсё.

Пётра не сьцярпеў. Адказаў:

— Нарабіў шмат... Мы-ж перадавікамі павінны быць. Ударнікамі...

Казалі яшчэ:

— Гэткая праца, як зараз, кулаччу толькі дапамагае плёткі верзьці, зьдзеквацца.

— Хіба не баліць сэрца, калі гэткая безгаспадарнасьць у нас яшчэ...

— Думкі ў цябе гэткія, што зблытаць хутка могуць з сьцежкі нашай.

5

Раніцой:

калі дзень пырснуў жмутам промняў, выкрайсаў фэйвэрк іскраў у ільдзінках,

калі вёска ўскіпела гамонкай, рыпам, скрыгаценьнем;

—гаспадарылі на пабудове комсамольцы. Гулкі пошчак з лёскатам бег у бяскрай асьнежаных палёў.

Перзвонам ляпацелі малаткі, глуха дзяўблі тапары, уядаліся ў мякаць бервяна. Тынкавалі, ладзілі хлявы. Сьмех. Жарты.

— Што Уладзік адстаеш—спаборнічаць давай, — гукнула Ганна, рушачы гурбу сьнегу, што зраўнялася аж з дахам.

— Пальцы, што качэрыжкі зрабіліся... Сіберны вятруга,— адказаў той, наводлет б'ючы рукамі аб плечы.

— Пагрэемся давай...

Ганна жартам шпурнула сьнегавы клубок. Заляпіў твар ён Уладзіку, заблытаўся ў аўчыне каўнеру.

— Ты гэтак... Вось будзе...

Уладзік кінуўся наўздагон.

— Не дагоніш!..

Праца ішла спорна. Ня ішла—віхурылася, кіпела, шугала.

— Робяць і зморы няма ім,—казалі, зайздросна вяскоўцы,— не зважаюць і на адпачынак.

Напорна чаўкалі пілы, вухкалі тапары.

— Гэткі рамонт зрабілі за дзень,—дзівіўся старшыня і радасная ўхмылка міжволі цьвіла на вуснах, хавалася ў рудой барадзе. Малайцы...



# КРЫЗІС
# у П. А. З. Ш.



**На вуліцу...**

Ад высяленьняў адзінкамі „клапатлівыя“ амэрыканскія гаспадары дамоў перайшлі да колектыўнага высяленьня беспрацоўных з кватэр. Вядома, высяленьні гэтыя робяцца пры дапамозе паліцыі.

На здымку: Выкінутая на вуліцу мэбля выселеных. На вокнах відаць запіскі, вывешаныя домаўласьнікам, аб „здачы ў наём“ кватэр, якія аслабаніліся.



Так жывуць беспрацоўныя у сталіцы Форда. „Дом“ беспрацоўнага пабудаваны на акраіне Дэтройту.



Нэгр Лі, арыштаваны і засуджаны на сьмерць па ложнаму абвінавачаньню ў забойстве. Паводле паведамленьня амэрыканскай сэкцыі МОПР Лі быў пасьля зьбіеньня гвалтоўна прымушаны, не чытаючы, падпісаць прызнаньне, што ён зрабіў забойства з мэтай абрабаваньня.



Гарнякі Пэнсыльваніі, Кентукі і іншых раёнаў ПАЗШ галадаюць. Тыя нямногія „шчасьліўцы“, якія яшчэ маюць работу, заняты толькі два-тры дні ў тыдзень і таксама галадаюць. Межрабпом організаваў харчавальныя пункты ў гэтых раёнах, але галодных так многа, што пункты ня могуць усіх іх задаволіць.

На здымку: Пякарня дапамогі галодным у Пэнсыльваніі.

# ШАНХАЙ У АГНІ



На здымку: Кітайскія партызаны захопленыя ў палон



Дзьве амэрыканскія авіаматкі „Саратога“ і „Лексінгтон“, якія прымалі ўдзел у манэўрах амэрыканскага флёту на Ціхім акіяне.

Кітайскія войскі ў Шанхаі пасьпяхова адбіваюць японскія атакі. Кітайцы шырока скарыстоўваюць партызанскія мэтоды змаганьня. Кітайскія снайпэры наносяць вялікія згубы японскім войскам у людзкім складзе. Японцы пад выглядам барацьбы супроць снайпэраў жорстка распраўляюцца з мірным насельніцтвам.



Кітайскія салдаты ў акопах



Упаўнаважаныя японскага імпэрыялізму ў Кітаі—генэрал Мінамі (былы ваенны міністар у габінэце Вакацукі) і генэрал Хондзіо.

Вайна ў Кітаі выклікала поўны захапленьня водгук на біржах капіталістычных краін. Няўпынна падымаюцца ўверх курсы акцый усіх заводаў, концэрнаў, нафтавых таварыстваў, параходных компаній, якія працуюць у большай ці меншай ступені на патрэбы вайны. У ваеннай прамысловасьці Францыі, Чэха-Славакіі і іншых капіталістычных краін пануе ліхаманкавая дзейнасьць.

Да 14 лютага з Чэха-Славакіі ў Японію было адпраўлена 18 тыс. гранат і 2 тыс. балонаў з удушлівымі газамі. Пражскі друк ацэньвае снаражэньне адпраўленае з Чэха-Славакіі на Далёкі ўсход з моманту пачатку вайны на Далёкім Усходзе, у агульнай суме звыш 120 млн. чэскіх крон.

Нямецкая буржуазія, таксама заварушылася ў надзеі вырваць і для сябе тлусты кавалак. Орган нямецкай цяжкой прамысловасьці „Бергверкс цэйтунг“ пісаў: „Сусьветныя біржы поўны падзей у сувязі з падзеямі на Далёкім Усходзе. Трэба сачыць з найвялікшаю ўвагай за падзеямі якія разьвіваюцца ў гэтым напрамку. Спэкуляцыя біржавымі каштоўнасьцямі ў Парыжы гаворыць пра тое, што ўсходняазіяцкі конфлікт спрыяльна адаб‘ецца на сусьветным крызісе“.

Паводле паведамленьня „Берлін ам морген“ концэрн „І. Г. Фарбен Індустры“ ўзмацняе сваю вытворчасьць, у прыватнасьці на заводах Гехста ў Франкфурце-на-Майне. Заводы Гехста да 10 лютага адправілі ў Японію ня менш 150.000 тон сэлітры.

Буржуазная газета „Нэйе лейпцыгер цэйтунг“ паведамляе, што японскае бюро ў Бэрліне закупіла на брусэльскай біржы для ваенных мэт 1.500 тон паласавога жалеза, 2.000 тон цынку, а ў Нямеччыне гэта ж комісія закупіла 4.000 тон белай жэсьці.

Ангельская газэта „Дэйлі геральд“ паведамляе, што ў порт Шанхай за апошнія паўгода прыбыло зброі і патронаў на суму 353.679 фунтаў стэрлінгаў і ваенных самалётаў на суму 289.790 фунтаў стэрлінгаў. Вайсковыя грузы вывезеныя за паўгода ў адзін толькі порт Шанхай складаюць трэцюю частку гадавога імпорту ўсёй краіны.

Компартыі ўсіх краін організуюць масы для барацьбы супроць імпэрыялістычнай вайны. Усюды адбываюцца організаваныя компартыяй сходы рабочых, на якіх выносяцца рэзолюцыі протэсту супроць вайны.

Рабочыя бяруць на сябе абавязак не дапушчаць адпраўкі зброі і ваенных матэрыялаў на Далёкі Усход.

Выданьне Дзяржаўнага Выдавецтва Беларусі. Рэдактар МІХАСЬ ЧАРОТ.

# ШАХМАТЫ № 2(12)

…д рэдакцыяй Я. Е. КАМЯНЕЦКАГА

**Задача № 29**



Мат у 2 хады

**Задача № 30**

Дэвіз „Справа гонару“



Мат у 2 хады

**Задача № 31**

Дэвіз „Прожэктар“



Мат у 2 хады

## …мацняем інтэрнацыянальную сувязь

…/ пачатку лютага распачынаюцца тэ…рафны матч паміж Менскам і Золін…м (Нямеччына) і матч па перапісцы …рэслаўлем.

…начасова з ходам матчаў, устанаў…цца цесная сувязь шляхам пера…і паміж менскай шахматнай органі…ыяй і рабочымі шахматнымі органі…ыямі Золінгена і Брэслаўля.

…сноўная задача гэтай перапіскі — …аёміўшы рабочых-шахматыстаў Золін…а і Брэслаўля, а праз іх і ўсіх рабо… з сапраўдным становішчам Савецкага …зу, з экономічным становішчам ра…ае клясы ў нас, з ходам завяршэньня …шай пяцігодкі і плянамі другой— …оўваць клясавую сьвядомасьць ра…ых.

…атчы будуць мець вялізарнейшае …чэньне як у справе інтэрнацыяналь…нага выхаваньня, так і для папулярызацыі шахмат сярод працоўных Савецкай Беларусі.

Ад Менску ў матчы з Золінгенам будуць іграць усе мацнейшыя шахматысты, з Брэслаўлем команда ў складзе: 1. Мазэль, 2. Касьперскі, 3. Верасаў, 4. Шукевіч - Трацьцякоў, 5. Насьцюшонак, 6. Майзэль Ю., 7. Майзэль Л., 8. Кейлес, 9. Камянецкі і 10. Жыдкевіч.

На V Усебеларускі шахматна-шашачны зьезд, які адбудзецца з 25 сакавіка па 10 красавіка, прыедзе команда рабочых-шахматыстых Брэслаўля. Тады мы з'іграем матч за дошкай.

Нам-жа патрэбна выкарыстаць інтарэс, які выклікаюць матчы, для стварэньня масавага прыліву рабочых у шахматна-шашачныя гурткі.

## …ижэй мы зьмяшчаем партыю …аную ў грандыёзным матчы …телеграфу Ленінград — Эўро…ў 1931 г.

**Партыя № 3**

| …енінград (…Дынамо) | Копенгаген (Данія) (Рабочы клюб) |
|---|---|
| 1. d2—d4 | d7—d5 |
| 2. c2—c4 | e7—e6 |
| 3. Kb1—c3 | Kg8—f6 |
| 4. Cc1—g5 | Kb8—d7 |
| 5. e2—e3 | c7—c6 |
| 6. Kg1—f3 | Фd8—a5 |

…эты варыянт фэрзевага гамбіта за…ца „кембридж-спрингскай защитой“.

| | |
|---|---|
| 7. Cg5 : f6 | Kd7 : f6 |
| 8. Cf1—d3 | Cf8—b4 |
| 9. Фd1—b3 | . . . . . |

Лепш чым Фd1—c2, пасьля чаго чор…ия 9. . . . c6—c5 аслабаняюць ігру.

| | |
|---|---|
| 9. . . . . . | d5 : c4 |
| 10. Cd3 : c4 | Kf6—d5 |

Незразумела для чаго...
Для таго, каб белыя маглі атрымаць …епшую ігру

| | |
|---|---|
| 11. Лa1—c1 | 0—0 |
| 12. 0—0 | Cb4 : c3 |
| 13. b2 : c3 | Kd5—b6 |
| 14. Cc4—d3 | c6—c5? |

Становішча чорных становіцца неза…дным. Аслабаняючы манэўр 13. . . Kb6 14. . . . c5 прыводзіць да таго, што …эрзь запіраецца сваімі-жа фігурамі на …эрзевым флянгу і ня можа ў патрэбны момант быць перакінут для абароны караля.

| | |
|---|---|
| 15. Kf3—e5 | f7—f6? |

Пасьля гэтай памылкі белыя атрымоўваюць магчымасьць правесьці бліскучую, комбінацыю. Лепш было простае

| | |
|---|---|
| 16. Фb3—b1! | . . . . |

Далёка разьлічаная ахвяра, зусім разбураючая каралеўскі флянг чорных. Вельмі прыгожы скачок фэрзя!

Чорныя прымушаны прыняць ахвяру.

| | |
|---|---|
| 16. . . . . . | f6 : e5 |
| 17. Cd3 : h7 + | Kpg8—h8 |
| 18. Фb1—e4 | . . . . . . |

Яшчэ мацней было 18. Cg6!!, пагражаючы Фb1 — e4 — h4 +, пасьля чаго выйграць справа тэхнікі.

| | |
|---|---|
| 18. . . . . . | Лf8—f6 |
| 19. Ch7—g6 | Лf6 : g6 |

Чорныя пазбаўляюцца назойлівага сланя, але ня бачаць, альбо недаацэньваюць наступных ходаў белых.

| | |
|---|---|
| 20. Фe4 : g6 | Cc8—d7 |
| 21. f2—f4 ! | . . . . . |

Пагроза белых Лf1—f3—h3 вельмі няпрыемна.

| | |
|---|---|
| 21. . . . . | e5—e4 |
| 22. f4—f5! | e6 : f5 |
| 23. Фg6—f7 !! | . . . . |

Ціхі ход! але колькі пагроз, ад якіх чорныя... ня маюць абароны. Далейшая барацьба не патрабуе заўваг.

23. . . . . Фa5—a3; 24. Лc1—c2, c5 : d4;

25. Лf1—f4, g7 — g5; 26. Фf7 — h5, Kph8—g7;

27. Фh5 : g5 +, Kpg7—f7; 28. Лf4—h4, d4 : e3;

29. Лh4—h7 +, Kpf7—e6; 30. c3—c4, e3—e2;

і белыя абвясьцілі мат у 9 (!) ходаў:

31. Лh7—h6 +, Kpe6—e5; 32. Фg5—g7, Kpe5—f4;

33. Лh6—h4 +, Kpf4—e3; 34. Лc2—c3+, Kpe3—d2;

35. Фg7—d4 +, Kpd2—e1; 36. Лc3—c2!, Фa3—d3;

37. Фd4—a1 +, Фd3—d1; 38. Фa1—c3+, Фd1—d2;

39. Фc3 : d2 ×!

Вельмі цікавая партыя.

### Разьвязаньні шахм. задач

**Задача № 11. Дэвіз „Магнэс“**

(з чор. Сл. на c7, замест пешкі)

1. Фc8—e6! пагражае 2. Фe4—c4 × : з першага погляду, у чорных няма чым абараніцца, і навошта такое награмаджэньне чорных і белых фігур на фэрзевым фланге.

Аднак, аказваецца, у чорных ёсьць цікавыя хады, пасьля якіх выкананьне пагрозы белых немагчыма, толькі па аднэй прычыне: бо на матуючым ходзе самазьвязаная чорная фігура разьвязжацца матуючай белай, а ад гэтага мала радасьці белым.

Таму на:

1. . . . . Фf5 : e5 ! 2. Лf6—f4 ×!
1. . . . . Kg6 : e5 ! 2. Лg8—g4 × !
1. . . . . Cc7 : e5! 2. Kf7—d6 × !

Цікавая задача!

**Задача № 12. Дэвіз „Кляпан“**

1. Лd7—e7 пагроза 2. Фd5—e4 ×.
1. . . . . Kc4—d2, 2. Kd1—e3 ×.
1. . . . . Kc4—e3, 2. Лe2—f2 ×.
1. . . . . Kc4—b6, 2. Kb5—d6 ×.
1. . . . . Kc4—d6, 2. Ce8—d7 ×.
1. . . . . Kc4—b2, 2. Kb5—d4 ×.

Усе гэта ня дрэнна, але як паведаміў Л. Гугэль (Масква) становішча чорных пешак не магло атрымацца, так што задача на вялікі жаль з конкурсу выключаецца.

Цана 15 кап.

# ДА ВЕСНАВОЙ ПАСЕЎНАЙ КАМПАНІІ 1932 ГОДУ

ЛІТАРАТУРА ПА СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАМУ СЭКТАРУ

СЕЛЬГАССЭКТАР ДВБ





1. Лейвікаў. — Веснавое разводзьдзе і яго значэньне для сенажаці.
2. Зборнік. — Даведнік па канягадоўлі.
3. Зборнік. — Трактарная 24-дысковая сявялка.
4. Волкаў. — Саўгасы—школа колгасаў.
5. Навіцкая. — Карысныя і шкодныя жывёлы ў сельскай гаспадарцы.
6. Скарупскі.—Памятка трактарыста-рулявога.
7. Галадаў. — Шкоднікі лёну і змаганьне з імі.
8. Дарогін.—Хваробы сельскагаспадарчых расьлін.
9. Букбарт. — Хаваньне малака і догляд за ім.
10. Сяргееў. — Малако.
11. Пратасеня. — Кіслотнасьць глеб Меншчыны.
12. Зардамскі. — Як павысіць удойнасьць кароў.
13. Лубоўскі. — Забясьпечым колгасы і саўгасы кармамі.
14. Гурын. — Асновы вэтэрынарыі.
15. Нурынаў. — Соцыялістычная фабрыка малака, масла і сыру.
16. Сьмірноў. — Выраб сланэчніка на сілос.
17. Александраў. — Сап у жывёлы і ў чалавека.
18. Мяжэвіч. — Крок у будучыню.
19. Арлоўскі. — Як складаць кармовыя рацыёны для малочных кароў.
20. Зборнік. — Дырэктывы партыі і ўраду аб разьвіцьці соцыялістычнай жывёлагадоўлі.
21. Зборнік. — Дырэктывы партыі і ўраду па арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні колгасаў.
22. Круглоў. — Выканаем пляны па соцыялістычнай жывёлагадоўлі.
23. Бэрзін. — Культура канапель у БССР.
24. Адстаеў. — Памятка разьязднога мэханіка.
25. Круглоў. — Ахова здароўя сельскагаспадарчых жывёл.
26. Кудзінаў. — Колгас „Новы шлях".
27. Бэсарабскі. — Памятка культармейца.
28. Драздоў. — Культуры для сілосу.
29. Фралоў. — Паліва для трактароў.
30. Пешкін. — Савецкае машынабудаўніцтва.
31. Антонаў. — Збожжавая радковая сявялка.
32. Тупяневіч. — Веснавыя работы ў садзе і гародзе.
33. Маркавец. — Што павінна ведаць ячэйка Асоавіяхэму ў барацьбе са шкоднікамі.
34. Захарэнка. — Абсталяваньне скотных двароў.
35. Арлоў. — Хвароба цялят.

СЕЛЬГАССЭКТАР ДВБ

**Кнігі прадаюцца ва ўсіх кнігарнях Дзяржаўнага Выдавецтва Беларусі, спажыўкоопэрацыі і Саюздруку.**

**Калі ў кнігарні ня будзе якіх-небудзь кніжак, дык шліце заказ „Кніга-поштай" па адрасу: Менск, Рог Савецкай і Ленінскай. Філіял ДВБ.**

ьне

Зак. № 457 ... Галоўлітбел № 1081